# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 7 (2253) 13 лютага 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.



— Я і мае калегі задаволены тым, што знаходзімся ў Мінску з мэтай адкрыцця дыпламатычнага прадстаўніцтва. Гэты факт мы расцэньваем як важную падзею для абедзвюх дзяржаў,— заявіў на прэс-канферэнцыі ў Міністэрстве замежных спраў рэспублікі часовы паверны ў справах пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь Джон Форд. Ён прыбыў у сталіцу незалежнай Беларусі як кіраўнік групы, якая мае заснаваць тут пасольства ЗША, і ўручыў МЗС РБ ноту аб акрэдытацыі першай групы амерыканскіх дыпламатаў.

Амерыканцы, якія першымі адкрываюць свае пасольства ў Мінску, маюць намер актыўна дзейнічаць і супрацоўнічаць з намі. Адной з першачарговых праблем яны лічаць аказанне садзейнічання Беларусі, як і іншым незалежным дзяржавам СНД, у пераадоленні сённяшніх цяжкасцей. Маецца на ўвазе перш за ўсё дапамога харчаваннем.

Працэс фарміравання амерыканскага пасольства завяршыцца, відаць, у бліжэйшыя месяцы. А ў Мінск тым часам амаль штодня прыбываюць афіцыйныя госці з іншых краін свету. Працэс дыпламатычнага прызнання Беларусі працягваецца.

НА ЗДЫМКУ: Джон ФОРД (злева) уручае ноту намесніку міністра замежных спраў РБ Уладзіміру СЯНЬКО.

# СІЛУ АДОЛЕЕ ТОЛЬКІ СІЛА

## ГУТАРКА СА СТАРШЫНЁЙ БЕЛАРУСКАЙ СЕЛЬСКАЙ ПАРТЫІ Яўгенам ЛУГІНЫМ

**Яўген Міхайлавіч Лугін, беларус, родам з Глускага раёна, падпалкоўнік запасу, праслужыў у арміі 30 гадоў, гаворыць на добрай беларускай мове.**

**Яго мэта — разарваць павуцінне раённа-калгаснай бюракратычнай сістэмы, расчысціць дарогу для гаспадара.**

**Яго дэвіз: «Старшыня сялянскай партыі павінен працаваць на зямлі і размаўляць па-беларуску».**

**— Чаму ваша партыя нават па-руску называецца не «крестьянской», а «селянской»?**

— Таму што «крестьянин»— гэта той, хто «крестьянствует» на зямлі. Гэта — гаспадар. А гаспадароў у нас пакуль што адзінкі — крыху больш 700 сялян у рэспубліцы маюць сваю зямлю і вядуць фермерскую гаспадарку. Быць партыяй толькі гэтых 700? Самі разумееце...

А калгасніка і рабочага саўгаса назваць гаспадаром нельга — яны наёмнікі. Наша ж партыя створана не толькі для абароны інтарэсаў фермераў, а ўсяго сялянства. Адсюль і больш шырокая трактоўка назвы партыі.

**— Чаго вы дамагаецеся?**

— Каб на зямлі быў гаспадар.

**— Гэта значыць фермер?**

— Не, хаця многія разумеюць нашы мэты менавіта так: раз гаспадар — значыць толькі фермер. Мы ж сцвярджаем, што гаспадаром можа быць і сельскагаспадарчы кааператыў, і нават калгас і саўгас. Але апошнія павінны быць пераўтвораны ў асацыяцыю, акцыянернае таварыства ці народнае прадпрыемства, г.зн. стаць гаспадарамі — валодаць і зямлёй, і сродкамі вытворчасці, і прадуктамі сваёй працы.

**— Вас абвінавачваюць у тым, што вы бачыце патрэбу неадкладна распусціць калгасы...**

— Нідзе і ніколі сялянская партыя не выступала з заявамі аб неадкладным роспуску калгасаў. Нельга разбураць старое, не збудаваўшы новага. Мы партыя рэфармісцкага тыпу, таму лічым, што рэформы ў вёсцы праводзяцца не ў адзін дзень і не валявым парадкам — без прымусу.

**— Хто найбольш пасприяў арганізацыйнаму станаўленню партыі?**

— ЦК Кампартыі Беларусі... Калі стварaліся іншыя палітычныя партыі, ЦК на гэта глядзеў спакойна. Як толькі наш аргкамітэт абвясціў аб намеры стварыць сялянскую партыю,

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## КАМЕРЦЫЯ І ЗДАРОЎЕ

...Адзін з такіх цэнтраў знаходзіцца на вуліцы Жудро ў Мінску. Будынак звонку неардынарны, цікавай архітэктуры. Але, на думку дырэктара фізкультурна-аздараўленчага цэнтра Міхаіла Баўдзілы, не ўсё прадумана ўнутры. Свабодна ў плавальным басейне, затое цесна ў залах атлетычнай і рытмічнай гімнастыкі, холадна ў адміністрацыйных кабінетах.

(Фотарэпартаж «Колькі каму каштуе...» змешчаны на 8-й стар.).



ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ

## РЫНАК ПРАЦЫ

На 1 студзеня гэтага года ў службу занятасці рэспублікі звярнулася 66 158 чалавек, з якіх 39 807 былі працаўладкаваны, 1 тысяча чалавек накіравана на перанавучэнне, а 342 — задзейнічаны на грамадскіх работах. За гэты перыяд 3 136 чалавек прызнаны беспрацоўнымі, з іх 2 261 назначана дапамога па беспрацоўю.

Паводле разлікаў Дзяржкампрацы РБ, у 1992 годзе ў выніку рэарганізацыі, перапрафіліравання, ліквідацыі стратных прадпрыемстваў, збояў у забеспячэнні матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі і камплектуючымі, у выніку разбалансаванасці эканамічных сувязей на рынак працы паступіць каля 300 тысяч чалавек. Колькасць беспрацоўных складзе амаль 60 тысяч чалавек.

## ПАКІДАЕМ САБЕ

Урадам рэспублікі прымаюцца меры па забеспячэнню насельніцтва прадуктамі харчавання і таварамі народнага спажывання на ўзроўні не ніжэй, чым гэта было ў 1991 годзе. Робіцца гэта за кошт павелічэння аб'ёмаў вытворчасці і змяншэння вывазу за межы рэспублікі.

У прыватнасці, у параўнанні з планам 1991 года ў 1992 за межы рэспублікі будзе зменшаны вываз малака на 26,2 працэнта і мяса — на 9,5 працэнта. Намечана значна зменшыць вываз тавараў лёгкай прамысловасці, у тым ліку бавоўняных і шарсцяных тканін, трыкатажных вырабаў і абутку скуранога.

Паляпшэнню забеспячэння таварамі будуць спрыяць таксама меры, прымаемыя ўрадам па ахове спажывецкага рынку рэспублікі.

ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

## МІНЧАНЕ — ЗА РЭФЕРЭНДУМ

Па просьбе галоўнай рэдакцыі інфармацыі БелТА супрацоўнікі лабараторыі сацыялагічных даследаванняў «Экумена» пры Інстытуце сучасных ведаў правялі апытанне з прычыны мяркуемага правядзення рэферэндуму аб давер'і парламенту і аб правядзенні датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета. Вось яго вынікі.

1. Ці лічыце вы неабходным правядзенне рэферэндуму?
так — 64 працэнты
не — 23 працэнты
цяжка адказаць — 13 працэнтаў.

2. Калі рэферэндум адбудзецца, то ці прымеце вы ў ім удзел?
так — 67 працэнтаў,
не — 19 працэнтаў,
цяжка адказаць — 13 працэнтаў.

3. Як вы збіраецеся галасаваць?
за недавер'е — 54 працэнты
за давер'е — 11 працэнтаў
цяжка адказаць — 35 працэнтаў.

Зразумела, даныя апытання не варта абсалютызаваць, паколькі сярод 300 рэспандэнтаў былі толькі мінчане, якія традыцыйна адрозніваюцца высокай палітычнай актыўнасцю і радыкалізмам поглядаў, лічыць загадчык лабараторыі Аляксей Колік. Аналагічнае апытанне ў сельскай мясцовасці можа даць зусім іншыя вынікі. Але пры ўсіх агаворках мы маем пажытак для аналізу і разважанняў.

НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

## ДРУГІ КАНГРЭС БДА

У Беластоку адбыўся другі кангрэс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.

БДА, утворанае ў 1990 годзе, з'яўляецца партыяй парламенцкага тыпу, якая аб'ядноўвае беларусаў Польшчы. Мэтай сваёй дзейнасці БДА лічыць выказванне патрабаванняў беларускай меншасці і абарону яе інтарэсаў.

На другім кангрэсе аб'яднання разгледжаны арганізацыйныя пытанні, унесены змены ў статут і праграму. Старшыня Галоўнай рады пісьменнік Сакрат Яновіч падаў у адстаўку. У знак ягоных заслуг спадара Яновіча абралі Ганаровым прэзідэнтам. Новым старшынёй БДА абраны малады палітык і навуковец Алег Латышонак.

У кангрэсе прымалі ўдзел госці з Беларусі — чатыры прадстаўнікі Беларускага народнага фронта.

МАЙСТЭРСТВА

## ФАТАГРАФІІ ГОДА

Міжнародны штогадовы альбом «Фатаграфіі года-1992» выйшаў у свет у Лондане. Гэтае традыцыйнае выданне з 1935 года ажыццяўляюць брытанскае каралеўскае фатаграфічнае таварыства і фірма «Фаунцін прэс».

На гэты раз тут змешчаны работы фотамайстроў з трыццаці краін усіх кантынентаў.

Ёсць у альбоме і прыемны сюрпрыз для беларусаў — здымкі адразу трох нашых землякоў (трох з усіх рэспублік былога СССР). І ўсе яны — жыхары Магілёва.

Серыяй «Аптыміст» з трох здымкаў з жыцця магілёўскага ветэрана-інваліда прадстаўлены мастак па спецыяльнасці Генадзь Карчэўскі. «Лявоніха» і «Гульня» (дзеці адной з чарнобыльскіх вёсак вобласці) — здымкі фотамастака Васіля Цітова. Здымак «Дарога» — работа архітэктара Эндрыкаса Юшкі.

*«Балансавы кошт асноўных фондаў, якія належаць дзяржаве, па стану на 1 студзеня 1991 года складаў у рэспубліцы ў цэнах 1972 года 84 мільярды рублёў. У той жа час насельніцтва, па самых аптымістычных прагнозах, гатова ўкласці ва ўласную справу, гэта значыць накіраваць на выкуп дзяржаўнай маёмасці, не больш 2 мільярдаў рублёў. Яшчэ каля 4 мільярдаў рублёў — прадпрыемствы і арганізацыі. Пры такой дыспрапорцыі прыватызацыя расцягнецца на многія гады або ахопіць толькі невялікую частку прадпрыемстваў. Таму ўрад прапануе ўвесці ў якасці сродкаў плацяжу за частку дзяржаўнай маёмасці (прыкладна палавіну) так званыя прыватызацыйныя ўклады. Імі надзяляюцца ўсе грамадзяне, якія пастаянна жывуць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Сума, якая будзе пералічваца на прыватызацыйны рахунак грамадзянам рэспублікі, зацвярджаецца Саветам Міністраў і, паводле папярэдніх разлікаў у цяперашніх цэнах, складзе ад 20 да 30 тысяч рублёў. Прыватызацыйны ўклад, пералічаны на прыватызацыйны рахунак грамадзяніна, у выглядзе грашовай сумы на рукі не выдаецца. Прыватызацыйныя ўклады выкарыстоўваюцца грамадзянамі рэспублікі для набыцця ў дзяржавы прадпрыемстваў, доляў (паёў, акцый) у капітале акцыянерных таварыстваў».*

*(З інтэрв'ю старшыні Камітэта па кіраўніцтву дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў РБ В. МАЦЮШЭЎСКАГА газеце «Звязда»).*

НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА



**Пагаласка аб рэдкіх здольнасцях доктара народнай медыцыны Рыгора Кавалевіча ідзе не толькі ў рэспубліцы. З Літвы і расійскай глыбінкі, з Каўказа і Урала едуць у Мінск да яго за дапамогай. Р. Кавалевіч — уладальнік дыплома «Чорны лотас» цыбецкай школы бяссмерця Міжнароднага цэнтра эксперыментальнай парапсіхалогіі і нетрадыцыйных метадаў лячэння і многае ўмее. У арсенале сродкаў, якія ён скарыстоўвае, уздзеянне біяполем, масаж, мануальная тэрапія, лячэбная гімнастыка і, вядома ж, усемагчымыя настоі лекавых траў. Поспех Р. Кавалевічу спадарожнічае пры лячэнні радыкуліту, остэахандрозу, стрэсаў, галаўных боляў, гіпертаніі, захворванняў органаў дыхання.**

**НА ЗДЫМКУ: Рыгор КАВАЛЕВІЧ прымае хворых.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● У Мінску адбылася канферэнцыя ахвяр палітычных рэпрэсій 1917 — 1980 гадоў. Ініцыятыву аб скліканні не падтрымала Камісія Вярхоўнага Савета РБ па рэабілітацыі ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Створана асацыяцыя асоб, якія пацярпелі за свабоду мысліць і гаварыць праўду.

● 23 фермеры з усіх абласцей рэспублікі пачалі вывучаць нямецкую мову ў Белдзяржуніверсітэце. У сакавіку яны паедуць у Германію, каб набрацца розуму ў нямецкіх бауэраў. На працягу васьмі месяцаў яны будуць авалодваць сучаснай тэхналогіяй вытворчасці эканамічна чыстай прадукцыі.

● Пра другую сусветную вайну ў ЗША напісана больш за 10 тысяч кніг. Некаторыя з іх былі падараваны Інфармацыйным агенцтвам ЗША Брэсцкай абласной бібліятэцы. Цяпер яны дэманструюцца на выстаўцы «Змаганне за свабоду: Злучаныя Штаты Амерыкі ў другой сусветнай вайне», якая разгорнута ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.

● Два бюсты — Маркса і Леніна, што ўзвышаліся на пастаментах ля будынка ЦК КПБ, былі зняты і адвезены невядома куды. Гранітныя пастаменты разбураны. Зроблена гэта па загаду Савета Міністраў рэспублікі.

● Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада выступіла ініцыятарам утварэння дэмакратычнага блока «Новая Беларусь». На сходзе грамадска-палітычных арганізацый была абрана каардынацыйная рада, у якую ўвайшлі, акрамя БСДГ, нацыянальна-дэмакратычная і Беларуская сялянская партыі.

● У Беларусі перастаюць выходзіць газеты, затрымліваецца выданне часопісаў. Няма «Беларускай нівы», «Советской Белоруссии», «Мінскай праўды», радзей з'яўляецца ў кіёсках «Знамя юности». Прычына адна: няма паперы. Прагнозы вельмі змрочныя: крах беларускай прэсы.

● 700 рублёў замест 350 цяперашніх — да такога ўзроўню патрабуе ад урада ўзняць мінімальную заработную плату Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі.

У Заяве Савета ФПБ, накіраванай прэм'ер-міністру рэспублікі В. Кебічу, сцвярджаецца, што працэс збяднення і люмпенізацыі насельніцтва стаў рэальнасцю.

САДРУЖНАСЦЬ

**Убачыць на свае вочы... З такой місіяй прыбыла ў Рэспубліку Беларусь парламенцкая дэлегацыя з Нарвегіі. Журналісты, вучоныя, урачы, якія прадстаўляюць усе буйныя медыцынскія арганізацыі гэтай краіны, зрабілі паездку на Гомельшчыну.**

**Дэталёва вывучалі нарвежскія ўрачы становішча спраў з аховай здароўя ў Веткаўскім раёне, наведалі новую райбальніцу, пабудаваную ўжо пасля чарнобыльскай аварыі, абласны анкалагічны дыспансер, дзіцячы дом. Пабывалі і ў Брагінскім раёне, і на чацвёртым блоку АЭС. Усё ўбачанае і пачутае ад людзей, якія пражываюць у пацярпеўшай зоне, не пакінула пасланцоў паўночнай краіны абыякавымі. Як падкрэсліў прадстаўнік дэлегацыі, будзе аказана канкрэтная дапамога перш за ўсё, медыкаментамі і дзіцячым харчаваннем.**



**НА ЗДЫМКУ: гэтая пажылая жанчына — адзіная жыхарка ўжо адселенай Барталамееўкі. Натуральна, яна выклікала цікавасць нарвежскіх журналістаў.**

**Калектыў рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела рэдакцыі ШАЛЯСТОВІЧУ Канстанціну Іванавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БАЦЬКІ.**

# СІЛУ АДОЛЕЕ ТОЛЬКІ СІЛА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ЦК КПБ імгненна выдаў пастанову, у якой сцвярджалася, што стварэнне сялянскай партыі пашкодзіць сельскагаспадарчай вытворчасці, і далей у такім духу. За гэтую пастанову мы вельмі ўдзячныя: нам зрабілі добрую рэкламу! Пра тое, што ўтвараецца Беларуская сялянская партыя, ведалі лічаныя сотні людзей. А тут разгромная пастанова ЦК надрукавана аж у трох рэспубліканскіх газетах — адразу пра нас даведаўся ўвесь народ. Спрацаваў прынцып бумеранга: раз камуністычныя ўлады супраць сялянскай партыі, відаць, у гэтую партыю варта ўступіць.

**— Саюз аграрнікаў Беларусі — ваш паплечнік у барацьбе за адраджэнне вёскі ці праціўнік!**

— Здавалася б, у нас не павінна быць супрацьстаяння: мэта ж адна—адрадзіць вёску, накарміць народ. Але фактычна — гэта нашы праціўнікі, бо Саюз аграрнікаў быў створаны ў нетрах ЦК КПБ. Яго галоўная мэта — захаваць нязменнай калгасна-саўгасную сістэму. Там усе былыя камуністы.

**— Але ж вы таксама былі камуністам!**

— Мы ўсе выраслі ў гэтай сістэме, і ўсе атрымлі вялікую дозу ідэалагічнага смецця. Прыйшоў час, і мы пачалі ачышчацца ад бруду — адзін раней, другі пазней. Магчыма, я не ўбачыў бы ўсё ў іншым святле, калі б сам не сутыкнуўся з гэтай сістэмай...

**— Але ўсё ж вернемся да вашых міжпартыйных стасункаў...**

— Неяк я выступіў на пасяджэнні праўлення Саюза аграрнікаў. Кажу ім: цяпер, калі мы ідзем да рынку, кожнае саслоўе будзе імкнуцца абараняць свае інтарэсы ў парламенце, бо там прымаюцца законы. Значыць, людзі, што працуюць на зямлі, павінны мець сваю фракцыю. Значыць, дзеля гэтага нам трэба аб'яднацца, выпрацаваць адзіную перадвыбарную платформу, канцэпцыю выхаду з крызісу. І прапанаваў сесці за «круглы стол». Мне адказалі: мы не знойдзем агульнай мовы.

Саюзу аграрнікаў карціць стварыць сваю сялянскую партыю. Але гэта будзе партыя старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў. Нельга недаацэньваць такой сілы. Гэта добра арганізаваная сіла, у іх грошы, у іх свая газета «Беларуская ніва». І калі аграрнікі здолеюць правесці на наступных выбарах сваіх дэпутатаў у парламент, то парламент, будзе больш кансерватыўны, чым сённяшні. Гэта сіла, якая тармозіць рух фермерства на Беларусі.

**— Вашы адносіны з іншымі палітычнымі партыямі!**

— Наш прынцып: кожная партыя мае права на існаванне. І мы супрацоўнічаем з БНФ, з Нацыянальна - дэмакратычнай партыяй, з Аб'яднанай дэмакратычнай, з сацыял-дэмакратычнай Грамадой. Мы выступаем з сумеснымі заявамі, апошняя наша заява — аб правядзенні рэферэндуму і патрабаванне новых выбараў.

**— Што вы лічыце моцнымі бакамі сялянскай партыі!**

— У нашай партыі ёсць тры моцныя пазіцыі. **Першая:** яна абараняе інтарэсы акрэсленых пластоў грамадства, а менавіта — сялянства. У адрозненне ад іншых партый, якія прэтэндуюць на абарону інтарэсаў усяго насельніцтва. **Другая:** наша цэнтрысцкая платформа. Сялянства заўсёды прытрымлівалася інстынктыўна філасофіі цэнтрызму, здаровага сэнсу. Самі варункі быцця вымагаюць ад яго не шарахацца з аднаго боку ў другі. Вось цэнтрызм як палітыка здаровага сэнсу — гэта наша моцная карта. Мы абвясцілі мэту — адраджэнне вёскі і запрашаем усіх да супрацоўніцтва. Сялянская партыя не можа займаць крайніх пазіцый — або бальшавіцкіх, або БНФаўскіх. **Трэцяя:** наша партыя нідзе і ніколі не выступала з экстрэмісцкіх пазіцый, не выстаўляла нерэальных патрабаванняў, не давала пустых абяцанняў. Усё, чаго мы дамагаемся, ажыццяўляецца. Праўда, са спазненнем.

**— Наколькі вялікі палітычны ўплыў сялянскай партыі ў вёсцы!**

— Гэты ўплыў павялічваецца. Наша партыя пачыналася год назад са 131 чалавека, а сёння мае 5 тысяч членаў. Што вабіць да нас людзей, дык гэта наша рэальная дапамога тым, хто хоча атрымаць зямлю. Часцей за ўсё селяніну не даюць зямлю або даюць няўдобіцу ці выдзяляюць лапік у адным месцы, лапік у другім, далёка ад дома. Калі селянін, паабіваўшы парогі афіцыйных устаноў, нічога не можа дамагчыся, ён ідзе да нас і просіць падтрымкі ў сялянскай партыі. І мы дапамагаем. Ужо ўдзельнічалі ў двух судовых працэсах і выйгралі справу. Вядома, раённа-калгаснай сітэме дзіка, што просты селянін можа судзіцца з ёю і перамагчы. Мясцовыя князькі скрыгочуць зубамі, ды вымушаны падпарадкавацца закону.

За намі будучыня, бо мы за гаспадара на зямлі, за новы лад жыцця ў вёсцы. А пакуль шэрагі партыі папаўняюцца марудна. Тут я бачу дзве прычыны. Па-першае, негатыўнае стаўленне да камуністаў аўтаматычна пераносіцца на ўсе іншыя партыі, ім цяпер проста мала веры. І па-другое, чыста сялянскае: пакуль пярун не ўдарыць... Навошта мне тая партыя! Пражыву і без яе. Але як толькі селянін сутыкнецца з крыўдай, з беззаконнем, са свавольствам, ён шукае абаронцу. І тады ўступае ў сялянскую партыю.

**— Што вас, як лідэра сялянскай партыі, цешыць і што засмучае!**

— Калі мне званяць мае аднадумцы і кажуць: дзякуй за дапамогу, атрымалі, нарэшце, зямлю, я шчыра радуюся і віншую новага фермера. Але калі пытаю яго: «Колькі?» І чую ў адказ: «3,6 гектара», на сэрцы кошкі скрабуць. Да чаго мы ідзем?! Разбіць зямлю на шматкі — гэта ж вяртанне ў каменны век! Калі наш Вярхоўны Савет быў бы з галавой, то ён у Кодэксе аб зямлі запісаў бы: фермерская гаспадарка будзе рэнтабельнай і зможа даваць таварны прадукт, калі яе памеры будуць не «да», а «ад» 50 гектараў і больш. А такія шматкі зямлі — гэта натуральная гаспадарка, толькі для забеспячэння сябе.

**— Дык якім жа павінен быць аптымальны памер фермерскай гаспадаркі, на вашу думку!**

— Для Беларусі — 50—100 і нават 150 гектараў.

**— Але ж хто сёння асмеліцца ўзяць 150 гектараў?!! Ва ўмовах, калі нідзе нічога не дастаць — ні трактара, ні ўгнаення, ні цэглы!**

— І яшчэ трэба дабавіць: ва ўмовах, калі калгасна-саўгасная сістэма не церпіць фермера, таму што яна бачыць: фермер падсякае сук, на якім сядзіць старшыня калгаса і вялізны апарат кіравання. Вось нядаўняя статыстыка: на 150 тысяч механізатараў у нас аж 142 тысячы ўпраўленцаў.

Мая думка, што зямлю трэба браць сумесна, напрыклад, утраіх. Фермеры ў раёне павінны ўтварыць асацыяцыю.

**— Апроч таго, што калгасна-саўгасная сістэма стрымлівае рух фермерства, яшчэ і самі людзі не надта ахвочыя да сваёй зямлі.**

— З аднаго боку, сялянства, скалечанае калгасным ладам, страціла пачуццё гаспадара. Людзі проста не ведаюць, як гэта можна самому гаспадарнічаць на вялікай зямлі. Многія нават баяцца: трэба ж самому думаць і дбаць, як пабудаваць хлеў ці свіран, дзе здабыць тэхніку, ламаць галаву, як рэалізаваць прадукцыю, каб была выгада. З другога, нашы людзі так зняверыліся, такія сталі апалітычныя, абыякавыя да розных праграм і заклікаў, што махнулі рукой на ўсё: ну вас з вашымі перабудовамі і прыярытэтамі! Нічога мне не трэба — ёсць агарод, ёсць карова ды парасё, і мне хопіць, а вы як сабе хочаце. Селяніну кажуць: бяры зямлю, а ён не хоча.

**— Дык што ж зрабіць, каб ён захацеў узяць зямлю!**

— Патрэбен нейкі ўзор, добры прыклад. Мяне вось запрашае выступіць Хрысціянска-дэмакратычны інтэрнацыянал. І я маю намер наведаць яго штаб-кватэру ў Бельгіі. Вядома, працягваць руку сорамна, але я буду прасіць, каб узялі па аднаму фермеру з раёна да сябе на стажыроўку, каб прыехалі да нас і дапамаглі ўводзіць новыя тэхналогіі. Карацей кажучы, дапамаглі стварыць нермальную фермерскую гаспадарку. І калі нашы сяляне гэта ўбачаць, то ў іх будзе іншае стаўленне да фермерскай гаспадаркі.

Зрэшты, у нас саміх ёсць ужо добрыя прыклады. Вось у Смалявіцкім раёне існуе кааператыў (гэта яшчэ з першай хвалі фермераў), 15 чалавек апрацоўваюць 270 гектараў зямлі. За мінулы год яны атрымалі 2 мільёны рублёў прыбытку.

**— Што, на вашу думку, можа пераадолець сілы інерцыі старой сістэмы, паспрыяць нармальнаму працэсу развіцця фермерства ў Беларусі!**

— Трэба працэнтаў дзесяць зямлі адчужыць у калгасаў і саўгасаў і перадаць яе ў распараджэнне Саветаў. За гэта рашуча выступае наша партыя. Тады будзе нейтралізавана супраціўленне старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў, і зямлю без перашкод атрымае той, хто хоча быць гаспадаром.

Тут мне бачыцца вырашэнне і яшчэ адной пякучай праблемы. Нам трэба на 90 тысяч скараціць Беларускую ваенную акругу. Горад не дасць афіцэрам і прапаршчыкам работу, бо ўжо пачынаецца беспрацоўе. Але ў кожнай вёсцы можна стварыць сельскагаспадарчы кааператыў — 3—4 чалавекі з вайскоўцаў плюс 2—3 з мясцовых сялян. Міністэрства абароны можа ім даць грузавік, а Міністэрства сельскай гаспадаркі — трактар. Уявіце сабе: 10 тысяч нашых вёсак дадуць працу 40 тысячам ваенных. Але гэта павінна быць дзяржаўная праграма.

**— Многіх непакоіць лёс пенсіянераў у вёсцы. Браць вялікі надзел зямлі ім не па сіле. Цяпер іх, дзе лепей, дзе горш, але ўсё ж такі апякае калгас. А што будзе з імі, як калгасаў не стане!**

— Пытанне вельмі да часу і надта ж балючае. Пакаленне людзей, якія вярнуліся з вайны і надрывалі жылы, каб адрадзіць калгасы і саўгасы, якое ўзняло краіну з руін, працуючы амаль што бясплатна, за пусты працадзень, нічога светлага ў сваім жыцці не бачыла. І цяпер, на старасці год, яно засталося ні з чым — ні здароўя, ні дастатку. Сялянская партыя бачыць выйсце толькі ў адным: даць сялянам-пенсіянерам па 1 гектару зямлі. Зараз яшчэ многія не разумеюць, што зямля — гэта вялікая каштоўнасць. Што рабіць стараму з зямлёй?

**Першы варыянт.** Да старых бацькоў прыязджаюць з горада дзеці і дапамагаюць апрацоўваць сваю зямлю, гадаваць свойскую жывёлу. Калгаснік-пенсіянер корміць не толькі сябе, але і сваіх дзяцей у горадзе: забяспечвае бульбай, гароднінай, мясам. У наш напаўгалодны час, калі ўсё шалёна дорага, гэта — пэўнае вырашэнне праблемы з харчаваннем.

**Другі варыянт.** Селянін сам не мае сілы апрацоўваць зямлю, і няма ў яго дапамогі і падтрымкі ніадкуль. Тады ён мае шанц аддаць свой гектар у арэнду фермеру-суседу. Той яго забяспечыць прадуктамі, і агарод дапаможа засадзіць, і дроў на зіму прывязе.

І **трэці варыянт.** Даць селяніну права прадаваць зямлю. Знойдуцца людзі, якія ахвотна купяць.

**— Як вы, Яўген Міхайлавіч, былы вайсковец, прыйшлі ў сялянскую партыю!**

— Я вельмі люблю зямлю, лес. У лесе ў мяне душа спявае. У 1986 годзе я звольніўся ў запас і цвёрда рашыў гады, якія мне засталіся, пражыць у вёсцы, заняцца сялянскай працай. Вярнуўся ў сваю родную вёску Барбарова, пабудаваў сабе дом і арганізаваў сельскагаспадарчы кааператыў. Нам, вядома, патрэбна была зямля, прасілі 15 гектараў. Старшыня калгаса валтузіў доўга, але зямлю мы так і не атрымалі. У якія дзверы ні стукаліся — а каб табе што зрушыла з месца, глухая сцяна. Я пабачыў на ўласныя вочы, што старая сістэма моцная сваёй арганізацыяй і яна не прымае ні «перестройки», ні дэмакратыі. Так я прыйшоў да высновы, што па аднаму нічога не даб'ешся. Каб зламаць гэтую сілу, патрэбна іншая арганізаваная сіла. Так я стаў адным з арганізатараў сялянскай партыі. Толькі такая палітычная партыя зможа адолець раённа-калгасную бюракратычнчю сістэму.

**— Адкуль вы, вайсковец, ведаеце беларускую мову!**

— Між іншым, наша партыя з'явілася ініцыятарам стварэння Беларускага саюза вайскоўцаў. Так што нацыянальная самасвядомасць сярод вайскоўцаў высокая. Да таго ж, у праграме сялянскай партыі запісана: спрыяць адраджэнню нацыянальнай культуры, мовы, традыцый народа. Мы многае згубілі, таму што не трымаліся сваіх каранёў. Я большую частку службы ў арміі правёў за межамі Беларусі, дзе не чуваць было беларускага слова. Можа таму мне яно такое дарагое. Хто лічыць сябе беларусам, для таго родная мова не праблема.

**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

**ДА ЧАГО МЫ ДАЖЫЛІ**

# ДАРОГА СМЕРЦІ «ТРАСЦЯНЦА»

У доме № 105 па вуліцы Сяліцкага ў Мінску — наваселле. Вось толькі не ведаеш, віншаваць тых, хто атрымаў тут кватэры, ці паспачуваць ім. Бо дом узведзены на магілках. Былых лагерных магілках...

...Гэта дарога пачыналася ад Магілёўскай шашы ля павароту на вёску Малы Трасцянец і рэзка абрывалася ля былой «эсэсаўскай» лазні на трасцянецкім полі. Кіламетры два ў даўжыню, не больш. «Дарогай смерці» назвалі адрэзак шляху абсаджаны таполямі. Вёў жа ён у «Ферніхтунгслагер» (лагер знішчэння, калі даслоўна з нямецкай).

З вясны 1942 года двойчы на тыдзень, па аўторках і пятніцах, прывозілі сюды грамадзян Аўстрыі, Польшчы, Чэхаславакіі, Францыі, Італіі, Германіі. Прыбыўшых выгружалі на пляцоўку, забіралі рэчы і выдавалі квітанцыі. Гэтыя квіткі супакойвалі людзей, надавалі ўпэўненасць, што іх проста перасяляюць на новае месца, у горад Благаў. На самай жа справе з натоўпу прыбыўшых адбіралі спецыялістаў-электрыкаў, слесараў, краўцоў, шаўцоў — словам, тых, з каго можна было яшчэ штосьці «выціснуць». Астатніх грузілі ў душагубкі і адвозілі ва ўрочышча Благаўшчына, што за некалькі кіламетраў ад вёскі Вялікі Трасцянец...

Захаваць бы тую унікальную дарогу, па якой прайшлі сыны і дочкі многіх народаў Еўропы. Захаваць бы і «залаты калодзеж». (Кажуць, людзі, зразумеўшы, што прывезлі іх на смерць, кідалі ў гэты калодзеж апошнія свае каштоўныя рэчы. Няма калодзежа. У канцы саракавых «золаташукальнікі» так старанна абшуквалі яго, што давялося засыпаць, каб не заваліла каго-небудзь, не дай Бог). Захаваць бы...

На жаль...

«Дарога смерці» бясследна знікае ў нашы дні. Дрэвы на паўночным яе баку ўжо высеклі ўшчэнт, а ўпоперак узвялі гэты самы дом № 105. Калі будаўнікі знайшлі, капаючы падмурак, брацкае пахаванне, у парушэнне існуючага заканадаўства яны не заспяшаліся ў Заводскі райвыканком, не перазахавалі, а проста выкінулі людскія косці на бруствер. І хто толькі не здзекаваўся з астанкаў...

Не захаваўся ніводны з дзевяці ваенных канцлагераў, якія размяшчаліся вакол Мінска. Існуе версія, што зроблена гэта з вельмі гуманных памкненняў: каб не наносіць успамінамі боль жывым. Ні Драздоўскага лагера, ні гета на Нямізе, ні лагера на вуліцы Шырокай... Так і з былым канцлагерам «Трасцянец». Устанавілі на пагорку ля вёскі Вялікі Трасцянец, дзе ні лагера, ні поля памяці, ні магіл загінуўшых не было, абеліск і «пахавалі» гісторыю. Цяпер нават жыхары мікрараёна Шабаны, ад якога рукой падаць да поля памяці, у большасці сваёй і не чулі, што пустка паблізу і ёсць тое самае поле.

«Людзі! Схіліце галовы! Тут, у буйнейшым у СССР лагеры смерці, нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны 1941—1944 гадоў было замучана, расстраляна, павешана, спалена звыш 206 тысяч савецкіх грамадзян...» Напісаны гэтыя словы на бляшанай шыльдзе перад сціплым помнікам на месцы былых крэмацыйных ям. А вакол — горы смецця і бур'ян.

**У. КУФЦЕРЫН.**

*ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ*

# ВЫЗВАЛЕННЕ ЦІ НЯВОЛЯ?

## 1939 ГОД — У НАШАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ

### IV

Напярэдадні другой сусветнай вайны беларускі нацыянальны рух у Польшчы знаходзіўся ў глыбокім заняпадзе. Беларусы бадай што нідзе на свеце не мелі хаўруснікаў. Аднолькава праследавалі іх як польская санацыя, так і савецкія камуністы. Цалкам была знішчана камуністычная плынь заходнебеларускага нацыянальнага руху. Моцна аслабленая на пачатку 30-х гадоў, КПЗБ у сярэдзіне 1938 года атрымала апошні, тым разам смяротны ўдар з боку НКУС і спыніла сваё існаванне. Камінтэрн абвясціў Камуністычную партыю Польшчы партыяй польскіх шпіёнаў, здраднікаў і дыверсантаў і на падставе рашэння свайго прэзідыума распусціў яе. Разам з ёй распушчаны былі камуністычныя партыі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

Ліквідацыя, аднак, арганізаванага камуністычнага руху ў Польшчы не спрычынілася да ўзмацнення і пашырэння ўплываў антыкамуністычных плыняў беларускага нацыянальнага руху. Хутчэй наадварот. Пляма пракамуністычнасці лягла на ўвесь беларускі рух. У сувязі з гэтым у санацыйнай Польшчы практычна ўсе палітычныя арганізацыі беларусаў і групы разглядаліся ў якасці варожых польскім нацыянальным інтарэсам. На жаль, у дужай ступені падобныя адносіны да беларусаў у Польшчы захаваліся аж да сённяшняга дня, нягледзячы на колькіразовую змену палітычнай сістэмы ў краіне.

Выразная антыбеларуская палітыка польскага ўраду прывяла і да значнага аслаблення дзвюх найвялікшых легальных беларускіх партый: Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (кіраванай ксяндзом Адамам Станкевічам) і Беларускага сялянскага саюза (пад кіраўніцтвам Фабіяна Ярэміча). Хрысціянскія дэмакраты ў 1936 годзе перайменавалі сваю партыю на Беларускае нацыянальнае аб'яднанне і ў значнай ступені змянілі тактыку сваёй палітычнай дзейнасці. Прыкладалі яны даволі актыўныя намаганні, каб зрабіць партыю галоўнай беларускай палітычнай сілай у Польшчы і з гэтай мэтай рабілі захады распаўсюджвання сваіх уплываў на праваслаўнае беларускае насельніцтва. Падобны тактычны крок не мог, аднак, затрымаць бег падзей і прыпыніць далейшы заняпад беларускага руху. У другой палове 30-х гадоў абедзве гэтыя беларускія партыі дзейнічалі ў хаўрусе і з дапамогай кампрамісаў вырашылі шматлікія спрэчныя праблемы. На жаль, гэта сведчыла хутчэй аб іх слабасці, а не аб палітычнай празорлівасці іх кіраўнікоў.

Нам жа для разумення атмасферы, якая панавала ў беларускім нацыянальным руху ў момант уступлення на тэрыторыю Усходняй Беларусі Чырвонай Арміі, вельмі важна адзначыць адну знаменную акалічнасць. Нягледзячы на жорсткія праследаванні з боку палякаў, амаль ніхто ў кіраўніцтве абедзвюх партый не лічыў магчымым адбудову беларускага нацыянальнага дому, абапіраючыся на сталінскі таталітарны рэжым. Рэальнае супрацоўніцтва з камуністамі выключалася. Нават ксёндз Адам Станкевіч у 1926 годзе на старонках газеты «Крыніца», органа хрысціянскіх дэмакратаў, пісаў: «Хаця я ў шмат чым і не згаджаюся з палітыкай камуністаў у БССР, але там сапраўды адбываецца шырокае беларускае нацыянальнае адраджэнне, адчыняюцца беларускія школы, выдаюцца беларускія кніжкі, наладжваецца беларускае навуковае жыццё. Ці ж гэта не стварэнне сапраўднага беларускага нацыянальнага дому?»

Камуністы, аднак, даволі хутка з дапамогай жорсткіх антыбеларускіх рэпрэсій вылечылі Адама Станкевіча ад падобных прасавецкіх ілюзій.

Сталіністы маглі толькі эгаістычна выкарыстоўваць беларусаў для сваіх мэт умацавання таталітарнага грамадства, а затым выкідваць іх на сметнік гісторыі як непатрэбны хлам. Мяркую, што сярод беларускіх незалежніцкіх дзеячаў, якія ў 1939 годзе неспадзявана знайшліся пад савецкай акупацыяй, не было такіх, хто б меў ілюзіі ў адносінах да раўнапраўнага супрацоўніцтва з камуністамі. Прыклады гэткага супрацоўніцтва былі хутчэй падобныя на супрацоўніцтва паміж катам і яго ахвярай.

Сутнасць адносін паміж беларускімі незалежніцкімі дзеячамі і сталіністамі добра разумелі і па другі бок савецка-польскай граніцы. Іван Клімаў успамінае, што ён і яго людзі былі рашуча настроеныя на правядзенне татальнай чысткі беларускага грамадства, на рэпрэсіі супроць усіх, хто нават непасрэдна не прымаў удзел у незалежніцкай дзейнасці. Сярод падрыхтаваных напярэдадні агрэсіі дакументаў, якія павінны былі стаць падставай для рэпрэсій, былі падрабязныя спісы беларускіх незалежніцкіх дзеячаў. Акрамя кіраўнікоў беларускіх палітычных партый, у Клімава былі спісы дзеячаў такіх беларускіх арганізацый, як Таварыства беларускай школы, Беларускі інстытут навукі і культуры ў Вільні, Беларускае навуковае таварыства, Беларускі саюз студэнтаў, Грамадская рада, Беларускі музей імя Івана Луцкевіча ў Вільні і шмат іншых. На думку Клімава, найбольш небяспечным быў — Беларускі Нацыянальны Камітэт, «кіраўнічы цэнтр беларускага фашызму» (як ён вобразна выразіўся). У сапраўднасці ж БНК, на чале якога стаяў Антон Луцкевіч, ужо даўно, ад канца 20-х гадоў, страціў сваё значэнне ў беларускім руху. Ён не выконваў сваёй галоўнай функцыі — каардынацыі дзейнасці ўсіх плыняў руху, не быў у стане адыгрываць ролю арганізацыі надпартыйнай. Значэнне яго было хутчэй за ўсё сімвалічнае. А ў 1938 годзе ён увогуле прыпыніў сваю дзейнасць. Такім чынам, інфармацыя Клімава, нягледзячы на апеку пільнага вока НКУС, не заўсёды была дакладнай.

Іван Клімаў прыбыў у Вільню на чале сваёй групы 21 верасня 1939 года. Была гэта першая паездка за граніцу адносна маладога вясковага беларускага хлопца, які зрабіў бліскучую партыйную кар'еру. Вільня нават часоў вайны зрабіла на яго моцнае ўражанне. Упершыню ў жыцці поўныя паліцы мясцовых крам, дзе можна было купіць амаль усё, што душы патрэбна. Аднак замест павагі да працоўнага высілку віленчукоў у душы Івана Фролавіча і ягоных памагатых нарадзілася пачуццё пагарды і нянавісці да жыхароў былой «панскай Польшчы», да іх адносна багатага і спакойнага жыцця. Гады камуністычнай індактрынацыі не прайшлі бясследна. Пачуццё абсалютнай бяскарнасці і ўсёдазволенасці на акупаваных тэрыторыях прыдало новым савецкім уладам упэўненасць у сабе. Гэтая акалічнасць абумовіла таксама выключна жорсткі і сляпы характар рэпрэсій. Пачуццё, што ён — пан лёсу выдатных інтэлектуалістаў і лідэраў беларускасці, узносіла аўтарытэт Клімава ў яго ўласных вачах.

І яшчэ адна вельмі важная акалічнасць абумовіла характар рэпрэсійнай дзейнасці савецкіх акупацыйных улад. Клімаў нічога не ведаў аб планах крамлёўскага кіраўніцтва перадаць Вільню Літве. Дзейнічаў ён у перакананні, што менавіта Вільня будзе некаранаванай сталіцай Заходняй Беларусі і што там адбудзецца Нацыянальны Сойм заходніх беларусаў, які абвесціць аб'яднанне беларускага народа ў адзінай сацыялістычнай дзяржаве. Таму спачатку антыбеларускія рэпрэсіі былі адносна стрыманымі. Арганізатарам «усенароднай радасці» з нагоды далучэння заходніх беларусаў да сталінскай імперыі патрабаваліся беларускія дзеячы для сваіх мэт.

Знамянальна, што перадача Вільні і Віленшчыны Літве была ўзгоднена паміж Савецкім Саюзам і фашысцкай Германіяй яшчэ ў сакрэтным пратаколе вядомага пакта Рыбентроп — Молатаў. Але беларускае камуністычнае кіраўніцтва аб гэтым не было паведамлена. Сведчыць гэта, безумоўна, аб тым, наколькі марыянеткавай і падлеглай была сітуацыя Савецкай Беларусі ў складзе СССР. Сталін абсалютна не лічыўся нават з тымі, хто быў яму цалкам адданы і фанатычна служыў ідэям камунізму.

Антыбеларускую чыстку ў Вільні Клімаў вымушаны быў праводзіць у цесным супрацоўніцтве з органамі НКУС, на чале якіх у горадзе стаяў палкоўнік Пятроў. Мяркую, што Пятроў—гэта не псеўданім, а сапраўднае прозвішча чалавека, адказнага за рэпрэсіі ў Вільні. Падзел кампетэнцый быў наступны: Клімаў адказваў за палітычны бок правядзення рэпрэсій, а Пятроў—за іх практычнае ажыццяўленне. Клімаў сцвярджае, што ва ўсіх спрэчных справах, звязаных з канкрэтным арыштам ці характарам рэпрэсій супраць паасобнай канкрэтнай асобы, рашаючае слова належала яму (Клімаву).

Пасля прыбыцця ў Вільню Клімаў і Пятроў, нягледзячы на тое, што мелі дакладныя спісы беларускіх дзеячаў, вырашылі наладзіць кантакты з мясцовымі былымі камуністамі і тымі, хто выказваў жаданне супрацоўнічаць з акупацыйнымі ўладамі. Адnымі з першых у якасці добраахвотных калабарантаў да Клімава з'явілася група левых польскіх літаратараў. На чале яе стаяў выдавец часопіса «Па-просту» Ежы Путрамант (пазней адзін з вядучых камуністычных літаратараў у Польскай Народнай Рэспубліцы). Клімаў вельмі цёпла ўспамінаў сваё супрацоўніцтва з Путрамантам. Па сутнасці, ён стаў галоўным кансультантам НКУС па пытаннях рэпрэсій у беларускім асяроддзі. Справа ў тым, што Ежы Путрамант быў добра вядомы сярод беларусаў, а многія беларускія палітычныя дзеячы не без падстаў лічылі яго галоўным хаўруснікам беларускай справы ў польскім асяроддзі. Вельмі важным для Клімава быў і той факт, што Путрамант быў асабістым сябрам Антона Луцкевіча. Праўда, справа тут даволі заблытаная. Магчыма, што сяброўства гэта было ў значнай ступені выдумана самім Путрамантам, каб больш прывабна выглядаць у якасці савецкага калабаранта.

Метады рэпрэсій у Вільні былі заснаваны на багатым вопыце рэпрэсіўнай дзейнасці НКУС. Як і ў 20-я гады, калі камуністам удалося заманіць у БССР амаль у поўным складзе эміграцыйны ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, каб пазней жорстка расправіцца з яго дзеячамі, так і зараз падман і дэмагогія сталі галоўнымі метадамі НКУСаўцаў. Клімаў і яго памагатыя вырашылі ўтварыць атмасферу псеўдабяспечнасці ў віленскім беларускім асяроддзі. Яны намагаліся пераканаць беларускіх дзеячаў, што ім нішто не пагражае з боку савецкай улады. Беларускае грамадства павінна было расчыніцца перад новымі ўладамі, дазволіць камуністам увайсці ў яго і ўзяць яго пад свой кантроль. На жаль, тактыка гэтая аказалася даволі дзейснай. Беларусы згубілі пільнасць і цяжка за гэта паплаціліся. Адным з найбольш драматычных быў арышт і пагібель патрыярха беларускай справы ў Вільні Антона Луцкевіча.

**Мікола ІВАНОЎ.**

---

*У ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»*

# ЗАЦІКАЎЛЕНАЯ СУСТРЭЧА

23 студзеня ў таварыстве «Радзіма» адбылася сустрэча дэлегацыі БГКТ і ГК па будаўніцтву Музея беларускай культуры ў Гайнаўцы з прадстаўнікамі Міністэрства культуры і асветы РБ, зацікаўленых грамадскіх арганізацый і творчых саюзаў. У склад дэлегацыі з Беласточчыны ўваходзілі старшыня ГП БГКТ прафесар А. Баршчэўскі, яго намеснік Ян Сычоўскі і сакратар БГКТ В. Ласковіч. ГК па будаўніцтву музея ў Гайнаўцы прадстаўляў яго старшыня К. Майсеня. Галоўнай мэтай сустрэчы былі пытанні супрацоўніцтва з нашымі землякамі ў Польшчы ў галіне культурна-асветніцкай дзейнасці, а таксама аказанне ім дапамогі ў будаўніцтве музея. У абмеркаванні гэтых пытанняў выступіў на сустрэчы старшыня праўлення Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў, намеснік міністра асветы В. Стражаў, старшыня Саюза кампазітараў І. Лучанок, старшыня ГП БГКТ А. Баршчэўскі і іншыя. Яны падкрэслілі важнасць падтрымання цесных сувязей дзяржаўных устаноў, грамадскіх арганізацый з беларусамі Беласточчыны, выказвалі канкрэтныя прапановы па вырашэнні закранутых пытанняў.

---

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# ЗАСТАЛІСЯ СВЕТЛЫЯ ЎСПАМІНЫ

Паважаны рэдактар!

Атрымала ад вас віншаванне да Новага года і вельмі ўдзячная за вашу ўвагу. У маёй памяці засталіся самыя светлыя ўспаміны аб беларускіх людзях.

У маіх вачах ваш народ асаблівы, хаця мне даводзілася сустракацца з многімі рознымі нацыямі. Вельмі чуллівы, добры, сумленны народ. Шкада, што на вас усіх напала такая бяда.

Не ведаю, не магу я ўгадаць будучыні незалежных рэспублік. Што творыцца, да чаго ўсё гэта прывядзе? Праўда, раней цэнтр бессаромна абіраў рэспублікі і народ. Але што будзе далей? Ці не стане ў рэспубліках развівацца нацыяналізм, шавінізм, ці не адновіцца зноў, як раней, таталітарны рэжым пад лозунгам дэмакратыі?

Не спяшаемся рабіць вывады, час пакажа.

Шкада Міхаіла Сяргеевіча, ён жа першы адкрыў вакно ў дэмакратызацыю, але занадта многа займеў нядобразычліўцаў, якія сабатавалі яго палітыку. Яго прыбліжаныя кіраўнікі, якія карысталіся яго даверʼем, былі дрэннымі дарадцамі.

Вакол Еўропы галеча, голад, войны, усе позіркі звернуты да яе для атрымання матэрыяльнай дапамогі. Хіба Еўропа ў стане накарміць усіх?! Усе расходы на іншыя краіны лягуць цяжарам на працоўны народ, павысяцца падаткі, вырастуць цэны на ўсё. Але і іншага выйсця няма, калі бачыш няшчасце другіх. Еўрапейскі народ выкарыстоўвае свае матэрыяльныя рэсурсы як можна больш рацыянальна, каб гэта ведаць, неабходна пажыць у Еўропе. Я асабіста жыву на адну пенсію, вымушана адмовіцца ад выпіскі некаторых савецкіх газет, не па кішэні, занадта падаражалі. Чытала, што «Известия» падаражаюць у 5 разоў, значыць пенсіянер павінен адмовіцца і ад гэтай газеты. Ужо ў гэтым годзе яна стала вельмі дарагая.

Дзякую, што не забыліся пра маю нястомную дзейнасць. На жаль, энтузіязм у мяне моцна аслабеў. Каб быць актыўным, працаваць з усёй аддачай сіл, неабходна быць ідэалістам. А які ў мяне сёння ідэал, нават страціла інтарэс да жыцця, а раней колькі было волі, сілы, любові. Аказваецца, моцныя ламаюцца хутчэй за слабых. Падзеі на Радзіме, мая інваліднасць II групы, страта любімага чалавека ўплываюць на самаадчуванне і настрой.

Жадаю вам усім найлепшага. Хто ведае, можа быць ідзе ўсё да лепшага.

З вялікай павагай да вас усіх

**Любоў МАГЛАВА.**

Бельгія.

